Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 15 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12—14 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 5 зл. 50 гр.; за паўгоду—3 зл. за 3 месяцы — 1 зл. 60 гр.; за 1 месяц — 60 грош.

№ 5 (57) Вільня, 16-га сакавіка 1935 г. Год 3-ці.

## Паваротны прыбой...

Калі мы прыгледзімся бліжэй да беларускага жыцьця апошніх часоў у Зах. Беларусі, то заўважым вельмі дадатні зварот, які адбываецца ў беларускім грамадзянстве. Гэта—працэс аб'едныываньня беларускіх жывых сіл, які ў недалёкай будучыні можа даць новы ўзрост нашага руху і мець вялікай вагі рэзультаты. Працэс гэты яшчэ нявыразны, але ён адбываецца і адбываецца ў сілу неабходнасьці, як вынік апошніх падзеяў на беларускім фронце.

Перадусім трэба сьцьвердзіць вялікае ажыўленьне ўсіх творчых прарасткоў нашага культурнага жыцьця. Наладжваецца сталы тэатр. Пачынаюць выходзіць новыя літэратурныя часопісі. Справа беларускага пачаткавага школьніцтва зыходзіць урэшце з мёртвага пункту, дзякуючы няўтомным стараньням пэўнае групы вучыцялёў. Ажывае пчалярскае Т-ва „Пчала“, якое выдае сваю часопісь. Справа беларусізацыі царквы знаходзіць арганізацыйнае выражэньне й пераходзіць у адпаведныя рукі. Паўстае дзіцячая часопісь „Пралескі“. Ажыўляюцца выдавецтвы. Календарная акцыя праходзіць з вялікім пасьпехам.

Гэтыя ўжо факты, якія выяўляюць новыя нашыя здабычы, сьведчаць выразна, што адбываецца консолідацыя беларускіх культурных сілаў, што наша інтэлігенцыя актывізуецца культурна, выходзячы з стану дэзарыентацыі, які наступіў пасьля ліквідацыі Грамады.

Але гэта ня ўсё. Вышэйпрыведзеныя факты — толькі вонкавыя паказчыкі. Трэба адзначыць яшчэ больш важнае зьявішча—гэта рухлівасьць нашае інтэлігенцыі, якая не выяўляецца вонкава з прычыны нашага матэр'яльнага бясьсільля. Літэратурныя вечары, рэфэраты, праекты, якія сягоньня—заўтра могуць быць зрэалізаваны, узрост літэратуры ў рукапісах і т. п.—гэта больш важныя праявы нашага культурнага адраджэньня, якія зьяўляюцца пэўнай зарукай яго трываласьці і далейшага росту.

Беларуская інтэлігенцыя, аддаваўшая свае сілы ўзрыўчатай працы, у надзеі здабыцьця лепшае долі для свайго народу, пераканалася, што ў апошнім выніку яна памагае „ліць ваду на чужы млын“. Горкі досьлед навучыў нашу інтэлігенцыю шукаць апору і падтрыманьне толькі ў сабе і ў сваім народзе і яна пачала зыходзіць з раздарожжа на самастойны шлях. Вынікам гэтага і зьяўляецца працэс консолідацыі ўсіх творчых, беларускіх сілаў, якую мы назіраем у сучасны мамэнт.

Але побач з гэтым нельга не адзначыць і іншага боку гэтага працэсу.

Дагэтуль шмат гаварылася аб ідэолёгічнай раздробленасьці, якая адбывалася ў беларускім грамадзянстве, як вынік нібыто соцыяльнага расслаеньня. Дыфэрэнцыяцыя бязумоўна дадатняе зьявішча ў кожным грамадзянстве, бо сьведчыць аб буйным росьце і багацьці жыцьця. Але дыфэрэнцыяцыя, якая панавала ў нас, мела той ад'емны бок, што не зьяўлялась якраз вынікам багацьця формаў жыцьця, але зьяўлялася рэшткамі тае хваробы, якую перажывала беларуская інтэлігенцыя пасьля 1927 г.

Расьцярушаньне і раздрабленьне было наруку пэўным групам, але для нас мела вельмі сумныя вынікі. На ўсіх адрэзках нашага жыцьця мы выяўлялі слабасьць. Ці то ўзяць выбары, ці беларускае школьніцтва і т. д. У сучасную хвіліну дыфэрэнцыяцыя існуе і надалей, але яна зьмяняе свой характэр.

Цяпер не навінка, калі ў аднымпакоі для абгаварэньня супольных справаў зьбіраюцца людзі розных поглядаў і напрамкаў. Гэта факт, які шмат гаворыць. Гэта значыць, што ў беларускім грамадзянстве прабудзілася разуменьне супольных інтэрэсаў, супольнага дзеяньня ў справах, датычачых усіх беларусаў.

З прыемнасьцю трэба падкрэсьліць і аздараўленьне нашае прэсы, якая сапраўды пачынае лічыцца з пэўнымі правіламі этыкі. Усё гэта прыпамінае часы перад першымі выбарамі, калі беларусы, выступаючы супольна, рэпрэзэнтавалі сябе куды паказьней, чым цяпер. Зразумела, паваротная хваля мае іншы рух, іншую сілу, але яна ў той ці іншай форме вяртаецца ізноў.

Дадатні зварот, які яшчэ ня зусім выразны, будзе ўсьцяж паглыбляцца і, трэба думаць, прывядзе да ўтварэньня ў Вільні сільнага беларускага цэнтру, што дыктуецца падзеямі ў Усходняй Беларусі.

Позытывістычны кірунак пранікае ня толькі ў галіну культурнага жыцьця. Ён ахапляе і палітычную думку. Ня выракаючыся канчатковых ідэалаў, якія зьяўляюцца пуцяводнай зоркай беларускага адраджэньня, беларускае грамадзянства бачыць аднак, што зьдзейсьненьне гэтых ідэалаў ня прыйдзе хутка і з нечае ласкі, што трэба лічыцца з рэальнымі варункамі беларускае сучаснасьці. У іншым выпадку гэтыя ідэалы застануцца пустым словам. Сягоньня ўсё больш трацяць грунт арыентацыі ў той ці іншы бок. Лёс гісторыі зрабіў, што Беларусь не апынулася ў ваднэй дзяржаве. Трэба лічыцца з фактам. Спадзяваньні да нічога не прывядуць, трэба працаваць, лічачыся з рэальнымі варункамі. У выніку гэтага пэўная група нашага грамадзянства пачала выпрацоўваць ідэолёгічную падставу, якая-б пагадзіла жыцьцё Беларусаў з тым і дзяржаўнымі рамкамі і абставінамі, у якіх яны апынуліся.

## Важнае выступленьне мін. гандлю ў Сэнаце.

У часе разгляду бюджэту міністэрства гандлю і прамысловасьці ў Сэнаце, сярод іншых аратараў выступіў і міністар Флойяр-Райхман.

Адзначыўшы неабходнасьць шырокага выкарыстаньня гандлёвага трактату з Англіяй, п. міністар перайшоў да абгавору ўнтранага гандлю.

— Ува ўнутраным гандлі,—заявіў міністар, — мы ўсё яшчэ ня выйшлі з старых формаў, якія вельмі прыпамінаюць формы сярэднявечнага абмену.

Бязумоўна, у цяперашнім сваім выглядзе, які прыпамінае гандаль часоў панаваньня Альжбеты ў Англіі, гандлёвыя адносіны ня могуць быць далей толераванымі. Гандлем у нас кіруе чорная магія. Наш вытворца ня ведае, колькі ён можа прасіць, а спажывец — колькі яму плаціць. Першы ня ведае, як трэба прадукаваць, а другі, — што ён можа трэбаваць.

Розьнічны гандляр адлучаны ад першакрыніцы тавараў ланцугом непрадукцыйнага і дарагога апарату пасярэдніцтва. На нашых таварах не абазначана ні меры, ні вагі, а гэта вядзе да таго, што тавары гэтыя ў гандлі робяцца об'ектам чорнае магіі, каторая адстрашвае і адпіхае тых, хто купляе.

Першым варункам барацьбы з гэтаю чорнаю магіяй зьяўляецца стандарызацыя, а затым зблізкэньне вытворцы з спажыўцом. Гэта—галіна найболей вольная і ўрад ня можа тут умешвацца ў болей шырокім маштабе. Павінна быць праведзена, паводле апрацованага пляну, рацыяналізацыя і аздараўленьне, а гэта ў пэршую чаргу абавязак гэткіх арганізацыяў, як гандлёва-прамысловыя, рамесьленыя і сельска-гаспадарчыя палаты. Урад гатоў супрацоўнічаць з грамадзкімі арганізацыямі ў самых шырокіх разьмерах.

Трэба замяніць, — заявіў далей міністар,—гэтую шкодную для нашага гандлю мафію „сучасным гандлёвым апаратам“.

## Абарона сельскае гаспадаркі ў Польшчы.

Старшыня рады міністраў п. Казлоўскі выступіў у сэнаце з важнаю заяваю аб гаспадарчым палажэньні.

— Эканамічная палітыка Польшчы, — як заявіў старшыня міністраў, — кіруецца цяпер дзьвюма мэтамі: 1) палепшыць палажэньне сялян і 2) бароцца з безрабоцьцем. Дзеля гэтых мэтаў урад будзе вясьці далей ужо пачатую работу, скірованую на палягчэньне цяжару даўгоў і на рэарганізацыю сыстэмы соцыяльнага страхаваньня, бо яна вельмі цяжка кладзецца на ўвесь народ.

Далей прэм'ер-міністар сказаў, што цэны на прадукты сельскае гаспадаркі ў Польшчы, у параўнаньні з вырабамі прамысловасьці, над'звычайна нізкія, а гэта даказвае, што добра арганізованы прамысловы капітал бароцца з слаба арганізованым сельска-гаспадарчым капіталам. Рэзультатам гэтае барацьбы ёсьць безрабоцьце. Дзеля гэтага першаю задачаю ўраду будзе абарона сельскае гаспадаркі, каб даць ёй магчымасьць атрымліваць тую часьць нацыянальных даходаў, якая належыцца сельскай гаспадарцы.

## Выдаленьне з ББ віцэ-маршалка Сойму д-ра Палякевіча

Выдаленьне з урадовае партыі—Беспартыйнага Блёку — д-ра Палякевіча, б. віцэ-маршалка Сойму зрабіла ў Варшаве вялікае ўражаньне з увагі на высокае грамадзка-палітычнае значэньне „вычышчанага“ з блёку дзеяча.

Опозыцыя, ведама-ж, прабуе выставіць гэтае здарэньне, як паказьнік глыбокага крызысу, нібыто пераживанага ўрадовым лягерам, а з офіцыяльных кругоў усёй гэтай справе даюць зусім іншае асьвятленьне, цьвердзячы, што яна ня мае і ня будзе мець ніякага палітычнага значэньня і ніякіх пасьледзтваў.

Як аснаўны доказ на карысьць гэткага цьверджаньня высоўваюць тое, што ўся гісторыя, закончаная фармальным выдалеяьнем старога „пілсудчыка“ з лягеру, які падтрымлівае Маршалка Пілсудскага, мае ўжо за сабою доўгі час, што хоць д-р Палякевік толькі цяпер выдалены з блёку але фактычна ён ужо даўно адсунены ад актыўнае палітычнае работы.

Ужо больш, як год, ён ні разу не заступаў маршалка Сойму на паседжаньнях і быў адсунены ад тае групы паслоў з блёку якія зьяўляюцца рэфэрэнтамі ў асобных галінах бюджэту ды інш.

# Аб адной бальшавіцкай маніі.

Даўно ўжо бальшавікі хварэюць цікаваю маніяй: зьмяняць назовы гарадоў і часам мясцовасьцяў напаўшае пад іх уладу вялізарнае краіны.

У Савецкай Беларусі, напрыклад, ёсьць нібыто „новы“ горад Чэрвенск, а мала хто ведае на гэтым баку рыскае граніцы, што гэта стары павятовы горадок б. Менскае губэрні—Ігумен.

З самым Менскам, як ведама, было ўсяляк. Спачатку бальшавікі зг̆аджаліся з нацыянальным назовам сталіцы БССР — *Менск*. Пасьля імі быў узяты стары цэнтралістычны курс маскоўскае палітыкі і Менск стаў Мінскам.

Ня было-б вялікага дзіва, каб яго ахрысьцілі Чарвяком, Галадзедам або Кагановічам, ад імя бальшавіцкіх камісараў на Беларусі.

Будучы неяк на вёсцы, я чытаў аднэй бабульцы, па яе просьбе, пісьмо з Каўказу. Сын пісаў, што горад, дзе ён жыве, называецца Крапоткін.

— А дзе гэты горад, сынку? Ці далёка ён? — раптам пытаецца бабуля.

І прыйшлося мне прызнацца, што бальшавікі ўсе назовы цяпер пасвойму зьмяняюць і які стары каўкаскі горад, — можа нават і самы Тыфліс, — завуць яны цяпер Крапоткіным, —мне невядома.

Асьвечаная работніцкая Эўропа імя князя Пётры Крапотніка знае ня менш, як старая Расея Льва Толстога, і, пэўна-ж, нельга моцць нічога проці гаго, што імем гэтым назвалі адзін з каўкаскіх гарадоў.

Крапоткін даўно заслужыў сабе права на гістарычную памяць у барацьбе за волю былога „астрогу народаў“.

Але вось месяц назад налажыў на сябе рукі, каб ня быць выведзеным „у расход“ рукамі б. ГПУ, адзін з савецкіх дзяржымордаў таварыш Куйбышаў. І сьледам за гэтым горад Самара адыйшоў у мінулае: цяпер гэта г. Куйбышаўск, а ўвесь Сярэдня-Волжаскі край—Куйбышаўскі.

Калі быў забіты прыяцель Сталіна Кіраў, дык пачалася цэлая г. зв. „кіравізацыя“ гарадоў і нават дзяцей, што радзіліся каля таго часу. Хлопчыкі „паакцябраны“ Кірамі, дзяўчынкі Кірачкамі, Вятка перахрышчана ў Кіраў, а пабудаваны бальшавікамі на Кольскім паўвостраве Хібінагорск зьменены на Кіраўск.

Мала каму вядома таксама, што Твер завецца—Калінін, Уладыкаўказ—Орджонікідзе, а Ніжні-Ноўгарад—Максім Горкі.

Спачатку бальшавікі зьмянялі назовы тых гарадоў б. Расеі, якія зьвязаны былі з імёнамі б. цароў, хоць часам не заўсёды вяжучы новыя назовы з імёнамі новых чырвоных „царкоў“ — сваіх камісараў.

Екацерынбург назваўся — Сьвердлоўск, Екацеринадар — Краснадар, Екацерыненштадт — Марксштадт, Аляксандраўск на Мурмане — Мурманск, Аляксандраўск на Дняпры—Запарож'е, Securityванікалаеўск — Новасібірск, Паўлаўск — Слуцк (ня трэба зьмешваць з нашым беларускім Слуцкам у Меншчыне, які дасюль яшчэ, здаецца, бальшавікамі „неперахрышчаны“ і называецца пастарому—Слуцкам).

Перарабляючы Екацерынаслаў на Днепрапятроўск бальшавікі пастараліся не пакрыўдзіць старога Дняпра і ўшанаваць старшыню украінскага ЦІК-у Пятроўскага.

Як ведама Ленін — гэта мянюшка (псэўдонім), праўдзівае прозьвішча бацькі бальшавізму — Ульянаў. І па сьмерці Леніна шмат гарадоў называюцца яго, як мянюшкай, так сама і прозьвішчам. Ведама, напр., што замест Петраграду ёсьць Ленінград, Сімбірску няма, замест яго ёсьць Ульянаўск, а б. Александропаль на Каўказе — Ленінакан.

Сталіну бальшавікі не шкадуюць „памятнікаў“ яшчэ пры яго жыцьці: Царыцын цяпер Сталінград, Юзаўка — Сталін, Дюшамбэ (ў Сярэдняй Азіі)—Сталінабад.

На цэлай валовай скуры можа і ўдалося-б зьмясьціць усе новыя бальшавіцкія назовы гарадоў ды мясцовасьцяў, калі аб усіх іх даведацца.

Апрача матываў географічных і пабуджэньняў пашаны да сваіх павадыроў, бальшавікі, даючы гарадом новыя назовы, часам нават быццам і адрусіфікоўваюць некаторыя гарады. Гэтак, напрыклад, порт Пятроўск на Касьпійскім моры завецца ў іх Махач-Кала, на маленькую радасьць тузэмцаў.

Бывалі здарэньні і паўторнае зьмены назоваў некаторых гарадоў.

Калі Троцкі перамог Юдэніча, дык Гатчына атрымала новае імя: Троцк, а калі „бліскучы ленінскі сэкундант“ Троцкі папаў у апалу, дык і Троцк абярнуўся ў Краснагвардзейск.

Напэўна і Зіноўеўск (раней Елізаветград) прыдзецца бальшавіком назваць інакш, пасьля вядомага працэсу Зіноўева і Каменева...

Ну і згадай тут, дзе знаходзіцца горад Крапоткін? Ці гэта Тыфліс, ці Пяцігорск, ці які іншы?

На бальшавіцкім Олімпе сядзяць не багі марксызму, а людзі, зложаныя з чалавечага цела, мо' і бяз душы. Яны стараюцца будаваць сваё панаваньне на трупах іншых чалавечых целаў. А, у сувязі з рознымі зьменамі на Олімпе—Крэмлі, зьмяняюцца ў сваіх назовах няшчасныя гарады.

Ніякая веда з галіны географіі не паможа, калі сам Сталін ня можа быць пэўным, што Сталінград спакойна праісвуе ну хоцьбы наш гэты 1935 год!

*Д. А.*

**Гэтым складаем шчырую падзяку духавенству, Аб'яднаньню Бел. Жанчын імя Цёткі і ўсяму грамадзянству, якое аддало апошнюю прыслугу Аўгеньні Галяк.**

**МУЖ і ДЗЕЦІ.**

# Рэвалюцыя ў Грэцыі

Сусьветная вайна так моцна скалыхнула людзкое жыцьцё, што на сьвеце, мусіць, яшчэ няскора наступіць супакой. Ад часу да часу паўстаюць забурэньні і то ў такіх мясцох, дзе іх найменш можна было спадзявацца. Так, у ночы з 1-га на 2 сакавіка гэтага году нечакана пачалося забурэньне ў Грэцыі, дзе частка сухапутнага войска і значная частка маракоў выступіла проціў сучаснага грэцкага ўраду. Проціўурадовае выступленьне пачалі якраз афіцэры, у іх ліку некалькі генэралаў, а палітычным кіраўніком рэвалюцыйнага руху зьяўляецца Венізэлёс, некалішні перпы міністар. На старану рэвалюцыянэраў адразу перайшло некалькі найлепшых ваенных караблёў, што вельмі іх узмоцніла. Грэцкі ўрад адразу заявіў, што бунт будзе здушаны ў працягу 2-3 дзён, аднак праз некалькі дзён рэвалюцыйны рух павялічыўся. Як пішуць газэты, апошнім часам рэвалюцыянэры маюць па сваім баку большасьць флёты ды шмат сухапутнага войска; частка аэропляна ў, высланых проціў бунтаўшчыкоў, таксама перайшла на сторану рэвалюцыянэраў.

Цяпер у руках рэвалюцыянэраў знаходзяцца ўсе большыя грэцкія астравы, амаль уся Македонія ды Тракія: на востраве Крыце абвешчана незалежная рэспубліка. Што выклікала такі бунт, пакуль што трудна сказаць. Некаторыя газэты падаюць, быццам у Грэцыі падгатаўляўся пераварот на карысьць манархіі і што частка паступовага грамадзянства папярэдзіла гэты перакарот, абвінавачваючы сучасны грэцкі ўрад у авантурнічых намерах.

Грэцкае забурэньне ўстрывожыла іншыя балканскія дзяржавы, а таксама і вялікія эўрапэйскія дзяржавы, бо-ж Балканскі паўвостраў заўсёды быў тэй парахоўняй, ад якой пачыналіся міжнародныя ўзрывы.

*А. П.*

**Пашырайце нашу газэту.**

# Партыец.

*(З расказу салаўчаніна).*

Ёсьць у мяне гэткі знаёмы. З Салавецкіх астравоў выбраўся жывым, некалькі гадоў там прамучыўся.

За што папаў на Салоўкі, ня кажа, але запэўняе, што каб туды ўліпнуць, дык вялікае віны ня трэба. Аб сваіх муках расказвае шмат і, здаецца, не маніць.

Аднаго разу расказаў мне вельмі цікавае здарэньне, што было яшчэ на пачатку яго арыштанскага жыцьця.

— Затрымала мяне, — кажа — ўсясільнае савецкае ГПУ ў цягніку, калі ехаў я з Віцебска ў Менск, пасадзіла ў менскую „Амэрыканку“. Сяджу. Шмат там людзей сядзела, ўсялякіх. З месяц часу прайшло і неяк пад вечар, у адзін летні дзень, укінулі да нас новага таварыша. Не савецкага на выгляд маладога дзяцюка, у каўнерыку з гальштукам, з кепкай на галаве, у гэткай вопратцы, якую носяць вясковыя хлапцы на польскім баку рыскае граніцы.

Неяк саромліва, з юнацкаю чырваняй на твары, паглядзеў новы наш кампан на ўсіх нас, абдзёртых, даўно нямытых і гэтак-жа даўно галодных.

— Сядайце, таварыш, не саромцеся, — кажу яму.

— Ээ!... Дзякую, — адказвае, — я так... не на доўга, — з нейкаю робленаю самапэўнасьцю, адказаў дзяцюк.

— Хто-ж ведае? — развлжаю далей, — я ўжо вось цэлы месяц сяджу, а ёсьць тут таварышы, што па паўгода і больш нават правялі тут, абжыліся, як у сваёй хаце...

— Ды не! — брава перабіў мяне хлапец, — я зусім што іншае... мяне тут марыць ня будуць.

— А ўсё-ж такі сядзьце з намі, ногі стоячы забаляць, — запрасіў адзін з былых камсамольцаў, — дый нам весялей будзе, калі пра волю сёе-тое раскажаце.

Новы кампан выняў з кішаня папіроску, прыкурыў яе ў мяне і, ўсё яшчэ стоячы пасярэдзіне набічкованай людзьмі камэры, стараўся быць спакойным.

— Непаразуменьне, — кажа небарака, — вось толькі выясьняць справу і выпусьцяць... гэтак мне казалі...

Ніякія ўгаворы не памаглі. Хлапец курыў адну за аднэй папіросы, тонкі дым якіх мяшаўся з нашым прывычным густым махорачным дымам і ўсім душным паветрам замкнёнага пакою.

Нэрвы новага кампана разгульваліся з кожнаю гадзінай. Ён тупаў па камэры з кутка ў куток, часам затрымліваўся, да нечага прыслухваўся, не зьвяртаючы ўвагі на гутарку рэшты арыштантаў.

— Таварыш! Годзі вам тупаць па камэры і дыміць бесьперастанку! — зьвярнуўся да яго ізноў, праз нейкі час, камсамолец...

— Ды я-ж так... на мінутку... чаго мне сядаць?...

— Калі вы *сексот**), дык і дурань-жа вы, якіх мала! — ня сьціхаў камсамолец...

— Які тут у чорта сексот? — зьдзівіўся стары кантрабандысты, павярнуўшыся на нарах і глянуўшы на навічка, — ён, як відаць і ня наш зусім, не савецкі!

Астаўпелы пагляд зьдзіўленых вачэй нашага новага таварыша выразна сьведчыў, што ён нават і не разумеў зусім, што значыць *сексот*.

Ужо і сонца зайшло. Зьмяркала. А бедны дзяцюк, быццам маладая мыш у драцяной пастцы, кідаўся з кутка ў куток.

— Скідайце плашч, вешайце на цьвік, або вось тут пасьцялеце, — басам загаварыў старэнькі поп з самага краю нараў, паціскаючыся да сярэдзіны, каб даць месца новаму таварышу.

— Дзякую, — адказаў той, — я вам кажу, што начаваць тутака ня буду, мяне затрымалі часова, да выясьненьня...

— Усе мы, малады чалавеча, да выясьненьня, — прагудзеў спакойным голасам поп, — але Бог толькі ведае, калі тут усё выясьніцца.

Зусім ужо сьцямнела, запалілася пад стольлю цьмяная электрычная лямпачка, магутна захроп кантрабандысты, большасьць арыштантаў напэўна ўжо спала, а новы кампан наш хадзіў ды хадзіў па камэры, чакаючы звальненьня.

Ён нэрваваўся два дні. І толькі на трэці дзень крыху прывык да нас, заняў месца каля папа, з папіросаў перайшоў на махорку ды пачаў ахватней дзяліцца з намі сваімі думкамі.

Быў ён партыйцам з Заходняй Беларусі. У бацькі сярэдняя гаспадарка, так што пасавецку ён зусім *кулацкі* сынок.

У Менск ён уцёк, калі ўжо польская паліцыя добра ўзяла яго, — як ён казаў, — „на мушку“.

І дзівіўся страшэнна юнак, як гэта яго могуць бальшавікі трымаць у вастрозе, яго — партыйца з Польшчы, дзе ён гэтулькі рызыкаваў?! І гэтак далікатна папрасілі яго сюды, у камэру, на мінутку, да выясьненьня...

А ён-жа ім зусім шчыра расказаў, як начаваў апошнюю ноч у роднай вёсцы ў бацькавым сьвірне на падстрэшшы, як пачуў каля свае хаты рух, заўважыў некалькі паліцыянтаў на падворку... як саскочыў з сьвірка ды ў кусты, ды на савецкі бок, балазей да граніцы недалёка было...

А тут яму і верыць ня хочуць, што ён — запраўды Іван Каршунец, на цэлую воласьць партыец. Вось табе і справядлівасьць!...

— Пяць месяцаў чакаў Каршунец выясьненьня свае справы, — расказвае салаўчанін, — шмат чаго зьмянілася ў нашай камэры: адных забіралі ад нас у ссылку, другіх у Камароўскі лес на расстрэл, іншых зноў саджалі да нас на часовы прыпынак.

— Іван Каршунец! *собирайтесь с вещами*! — пачуўся раз голас канваіра і, падаўшы мне руку, — кажа салаўчанін, — Каршунец, пасьпеўшы ўжо добра здружыцца са мною, пакінуў „Амэрыканку“.

Цераз два месяцы ад яго прыйшло пісьмо, у якім апісана было яго нязвычайнае зьдзіўленьне:

— „Можаце ўявіць сабе“, — пісаў Каршунец, — „мяне загналі ў Заходнюю Сыбір за... дэзэртырства, бо выходзіць паіхняму, быццам я самавольна, без пазваленьня партыйных уладаў, пакінуў свой пост на бацькаўшчыне“...

— Шчасьлівы, аднак, гэты Каршунец, — дадае салаўчанін, — бо і горш магло скончыцца яго чаканьне выясьненьня справы... проста так „*по ошибке*“ мог ён папасьць на Камароўку.

*Краўцоў Макар.*

*) Секретный сотрудник ГПУ, даносчык.

## Пісьмо у рэдакцыю.

Паважаны Пане Рэдактар!

Не адмоўце зьмясьціць ў Вашай газэце наступнае:

У № 11, Беларускай „Крыніцы“ ад 3-III-1935 г. зьмешчаны артыкул пад назовам: „Беларуская рэлігійная праца“.

У гэтым артыкуле робяцца закіды беларускаму праваслаўнаму грамадзянству, што яно не вядзе ніякай працы на духоўнай ніве, і проціўстаўляецца праца беларусаў-каталікоў. Між іншым крытыкуецца дзеяльнасьць беларускага Праваслаўнага Камітэту, нават закідаецца яму, быццам „само праваслаў'е гэтага Камітэту дужа сумліўнае“.

Прад гэтым „Беларуская Крыніца“ наадварот, апрабавала дзеяльнасьць Камітэту, выстаўляючы К-т, як змагароў за сваю Царкву.

Але tempora mutantur! Тады кіраўнікі Б.Х.Д. фліртавалі з Цэнтр. Бел. Прав. К-там і стараліся ўцягнуць яго ў арбіту сваіх уплываў. Але Цэнтр. Бел. Прав. К-т, *як арганізацыя праваслаўная* не магла пайсьці на павадку пп. каталіцкіх ксяндзоў, а таму і папаў у няміласьць.

Падставаю гэтых закідаў зьяўляецца артыкул у „Сьветачы Беларусі“ аб уніі. Гэты артыкул быў зьмешчаны ў „Сьветачы Беларусі“ ў час найбольшай актыўнасьці з боку каталіцтва ў зьвязку з акцыяй біскупа Чарнецкага. У ім зусім об'ектыўна даводзілася да ведама нашае гіерархіі, што пры тагдышнім „status quo“ Праваслаўнае Царквы на Беларусі пагроза з боку уніі зьяўлялася зусім актуальнай што з уніяй трэба лічыцца, як з моцным праціўнікам праваслаўя тым больш, што унія яшчэ у не так даўным прошлым была нацыянальнай рэлігіяй бел. народу. Тое самае Цэнтр. Бел. Прав. К-т ня раз падкрэсьліваў і ў сваіх мэморыялах на імя Яго Блажэнства, Уладыкі Мітрапаліта.

Калі Б.Х.Д. у флірце з К-там не асягнула сваіх мэтаў, дык вось „Беларуская Крыніца“ пачынае пасвойму тлумачыць паасобныя выразы газэтных артыкулаў і беспадстаўна абвінавачываць К-т ў ухіле ад праваслаўя. Другая прычына нападаў на К-т з боку „Беларускай Крыніцы“ больш глыбокая.

Цэнтральны Бел. Прав. Камітэт першы пачаў арганізаваную барацьбу за беларусізацыю Праваслаўнае Царквы. Тэзы, пастаўленыя ім, і дагэтуль зьяўляюцца актуальнымі і адзінымі падставамі для змаганьня праваслаўных беларусаў за сваю Царкву.

У сваёй барацьбе К-т доўгі час быў адзінокім: ня толькі не знаходзіў падтрыманьня з боку нашых грамадзкіх і палітычных, дзеячоў, а нават яму рабіліся дзе толькі можна было перашкоды, А Б. Х. Д. ...арганізавала адначасна каталіцкую акцыю на беларускіх землях Заходняй Беларусі.

І гэта ў той час, калі К-т укладаў усе свае высілкі ў змаганьне з гіерархіяй і духавенствам, якія упорна не прызнавалі за беларусамі права на нацыю: „никаких бѣлоруссов нѣтъ“ прыходзілася заўсёды чуць ад праваслаўных гіерархаў.

Прайшло 5 гадоў, Камітэт сваёй працай дапяў нарэшце таго што справа беларусізацыі Царквы становіцца на рэальны грунт. А гэта азначае адначасна і *ўзмацненьне Сьв. Праваслаўя на Беларусі*.

Вось тады... зьяўляюцца новыя абаронцы Праваслаў'я.

Каталіцкая „Беларуская Крыніца“ пачынае зьмяшчаць артыкулы аб праваслаўных пытаньнях. Пры Нац. Камітэце арганізуецца асобная Праваслаўная Камісія, хаця самы Нац. К-т знаходзіцца выключна пад уплывам і кіраўніцтвам каталіцкіх ксяндзоў.

У гэтай-жа, „Беларусскай Крыніцы“ пачынаюць асьцярожна як-бы прабуючы грунт, зьяўляцца артыкулы аб уніі, дзе унія прапануецца ўжо, як нацыянальная рэлігія беларускага народу.

Праваслаўны К-т бачыць ў беларусізацыі Царквы падставу для ўзмацненьня праваслаўя на Беларусі і абароны яго ад актыўнасьці як з боку *каталіцтва*, так і розных сэктантаў і бязбожнікаў.

Вось чаму на К-т пасыпаліся напады з боку „Беларускай Крыніцы“.

Бо як там Б.Х.Д. не абнаўляецца, але яна як была, так і засталася каталіцкай партыяй бо кіраўнікамі і духоўнымі павадырамі партыі як раней, так і цяпер зьяўляюцца каталіцкія ксяндзы. Трудна сабе прадставіць, каб каталіцкія ксяндзы маглі *шчыра* рупіцца аб дабры Праваслаўнае Царквы.

Ясна што ўсе іх выступленьні ў «Беларускай Крыніцы» ў справе беларусізацыі Праваслаўнае Царквы, гэта белымі ніткамі шытыя падыходы пад сумленьне праваслаўнага беларускага грамадзянства.

*„Мэты апраўдываюць сродкі“*

З гэтым вучні Лойёлы выйшлі на падбой сьвету. І нашыя ксяндзы — „дастойныя“ наступнікі Лойёлы.

Беларускі Праваслаўны К-т — гэта праваслаўная арганізацыя, прызнаная як з боку праваслаўнае гіерархіі, так і з боку духавенства і народу. Беларускі Праваслаўны К-т як змагаўся, так і будзе змагацца за правы беларускага народу: мець сваё нацыянальнае духавенства, мець сваю Нацыянальную Царкву; *але адначасна будзе змагацца і за ўзмацненьне Сьв. Праваслаўя на нашых землях.*

Наша Праваслаўная Царква яшчэ не патрабуе абароны з боку каталіцкіх ксяндзоў, бо выглядае гэта больш чым „гумарыстычна“. Мы радзім беларускім ксяндзом зьвярнуць больш увагі на тое, што робіцца ў каталіцкім Касьцеле на нашых землях, а ня рупіцца аб Царкве Праваслаўнай.

Гэта будзе больш этычна і разумна.

З глыбокай пашанай

*Прэзыдыюм Цэнтральнага Беларускага Праваслаўнага Камітэту.*

## Беларуская хроніка.

— У нядзелю, 17-га сакавіка, у салі Консэрваторыі (Конская вул., 3) адбудзецца спэктакль-вечар, прысьвечаны 25-цілецьцю беларускага тэатру. Пасьля рэфэрату будуць пастаўлены дзьве п'есы Фр. Аляхновіча: „Цені“ (у 3-х актах) і жарт (у 1-эй дзеі) „Чорт і баба“. Пасьля п'есаў выступіць пад кіраўніцтвам гр. Р. Шырмы беларускі хор. Пачатак а гадз 7-ай увечары.

— У пятніцу, 8-га сакавіка, у сувязі з прыездам у Вільню сьлёнскіх школьных візытатараў, у гмаху гімназіі імя Ю. Славацкага адбыўся вечар, на якім прыехаўшым былі задэманстраваны беларускія і літоўскія танцы і песьні. Група беларускіх вучняў пратанцавала „Лявоніху“ пры акампанімэнце цымбалаў, хор пад кіраўніцтвам гр. Р. Шырмы прапяяў некалькі народных беларускіх песьняў.

— Ужо друкуецца і хутка выйдзе з друку новы зборнік вершаў поэта Міхася Машары.

— У Беларускай Гімназіі, у сувязі з прыпадаючымі ў гэтым годзе 25-угодкамі беларускага тэару, былі прачытаны два рэфэраты на тэмы: „Першае беларускае прадстаўленьне ў Вільні“ і „Беларускі тэатр за 25 гадоў“.

— У нядзелю а 5-ай гадзіне ў VI-ай салі Віленскага Унівэрсытэту д-р. Я. Станкевіч прачытае ў Т-ве Прыяцеляў Беларусаведы лекцыю на тэму: „Беларуская мова XVI сталецьця ў Ашмяншчыне на падставе Ай-Кітабу“.

— Ад 20-га сакавіка пачнуцца Вялікодныя Фэрыі ў Віленскім Унівэрсытэце. Фэрыі патрываюць да 29-га красавіка. Студэнты—на вёску!

— Пры Віленскай Беларускай Гімназіі, як даведываемся, арганізуецца дружына беларускіх скаўтаў.

— У віленскім кіне „Рэвіі“ ўвесь прошлы тыдзень танцавалі „Лявоніху“. Лявоніха выконвалася артыстамі „Рэвіі“ і выклікала захопленьне публікі.

— *Пасьля балю 3-ох саюзаў.* Як ужо мы пісалі, 2 сакавіка г.г. адбыўся чародны гадавы баль трох студэнцкіх саюзаў: беларусаў, ліцьвіноў і украінцаў. Трэба тут адзначыць, што баль гэны ў сёлетнім годзе быў збайкатаваны беларускай і літоўскай хадэцыяй. Падобна як і ў мінулыя гады літоўскае студэнцтва і сёлета не ўсьцяраглося ад нетактоўнасьцяў. Справа ў тым, што ліцьвіном вельмі хацелася пры помачы гэтага балю зазначыць „літоўскасьць“ Вільні. Балёвая камісія пастанавіла запрасіць ад старэйшага беларускага, літоўскага і украінскага грамадзянства 3-ох ганаровых прадстаўнікоў, якіх прысутныя на балі мелі адпаведна прывітаць пад гукі марша. Ад гэнага праекту ліцьвіны ўжо перад самым балям адмовіліся, бо беларускае студэнцтва не згадзілася, каб вітаць гэных прадстаўнікоў у мове літоўскай а па другое, на прадстаўніка запрасіла не старшыню пролітоўскага Бел. Нац. Камітэту, але асобу з ім не зьвязаную. Шляхам лясаваньня мела быць вырашана пытаньне, які першы пойдзе нацыянальны танец — бел. лявоніха ці літ. сукцыніс.

Ліцьвіны аднак умовы гэнай не датрымалі і самачынна пратанцавалі першы сукцыніс. Зусім падобнае самачынства выказалі яны пры абвешчаньні каму прызнана нагарода за найпрыгажэйшы вальс Урэшце баль закончылі сукцынісам. адразу пасьля гэтага распусьціўшы аркестр. „Гордыя“ гэткім „геройскім“ падкрэсьленьнем „літоўскасьці“ Вільні, ліцьвіны выклікалі абурэньне сярод беларусаў і наагул прысутных на балі. Па чуткам, бел. студэнцтва гэны супольны баль уважае за апошні.

— *Беларуска-славянскі лемантар.* У 1933 г. Выш. Дух. Уладаю Прав. Царквы быў выданы беларуска-славянскі лемантар. Даведваемся, што мітраполія ўжо прыступіла да другога выданьня гэнага лемантару, на нова яго апрацоўваючы, бо ў першым выданьні было шмат памылак і мова вельмі благая.

— *Мы „пахалі“.* Як ведама, у Вільні ладзяцца навуковыя зборкі дзеля працы над чысьцінёй беларускае мовы. У зборках гэных бяруць дзейны ўдзел прадстаўнікі ад розных беларускіх арганізацыяў. Пасьля агульнай дыскусіі на гэтых зборках выносяцца адпаведныя рэзалюцыі. „Бел. Крыніца“ пачала іх апублікоўваць і што найгалаўней, падпісваць імём „Бел. Інстытуту Гаспадаркі і Культуры“, дадаўшы заўвагу, што рэзалюцыі гэныя „перагледжаны“ і „зацьверджаны“ успомненым Інстытутам. Словам — „мы пахали“...

## Баяцца вайны.

Ня гледзячы на тое, што пасьля сусьветнае вайны паасобныя дзяржавы трацяць на вааружэньня значна больш чымся перад гэнай вайной, аднак урады баяцца пачынаць вайну. Аб гэтым можа найлепш сьведчыць прыклад спрэчкі паміж Італіяй ды Абісініяй. Абісінія, адзіная незалежная дзяржава ў Афрыцы, займае абшар звыш 800 тысячаў квадратных кілёмэтраў і мае каля 12 мільёнаў насельніцтва. З яе землямі граничаць між іншымі і італьянскія калёніі. Вось-жа ў апошніх днях студзеня і першых днях лютага гэтага году на італьянска-абісінскай граніцы дайшло да страляніны, ад якой згінула па некалькі чалавек як з аднаго, так і з другога боку. Пасьля гэтага Італія загразіла вайной, дамагаючыся ад абісінскага ураду адшкадаваньня за страты і зараз-жа зрабіла частковую мабілізацыю. Абісінія-ж у свой чарод таксама выступіла з дамаганьнем адшкадаваньня за страты, вінавацячы ў пачаўшайся страляніне італьянцаў, прычым абедзьве стараны пачалі сьцягваць войска да граніцы, — Італія выслала ў Афрыку на караблёх некалькі тысячаў войска ды некалькі сот аэропляна ў. Італія, як ведама, мае войска шмат больш ды і лепш уваружонага, чым Абісінія. Але з другога боку мясцовасьць у Абісініі гарыстая, там можна даўжэйшы час весьці партызанскую вайну, ды і запалу да гэтае войны пэўне-ж менш у італьянцаў чым у абісінцаў. Больш таго, у мясцовага насяленьня італьянскіх калёніяў выяўляецца варожы настрой да Італіі. Вось чаму італьянскі ўрад пасьля грозных дэманстрацыяў неяк супакоіўся і, як відаць, да вайны ў Афрыцы пакуль што ня дойдзе. *А.*

## У апошнюю хвіліну.

У сувязі з захадамі балтыцкіх паслоў ўдыплёматычны карэспандэнт „Daily Telegraph“ паведамляе, што мін. Саймон зробіць націск на *Нямеччыну*, каб апошняя ўзяла ўдзел у пэўных забавязаньнях, запэўняючых інтэгральнасьць *Літвы*. Нямеччына са свайго боку патрэбуе ад Літвы перасьцераганьня міжнародных пастановаў адносна немцаў пражываючых у Клайпэдзе.

— „Le Petit Journal“ зьмяшчае гутарку сваёй супрацоўніцы з прэм'ерам Гэрынгам на тэму нямецкага лётніцтва. Ген. Гэрынг асьведчыў, што *Намеччына* хоча мець лётніцтва, якое-б выносіла толькі 30 прац. лічбы ўсіх вайсковых аэропляна ў Францыі, Чэхаславакіі, Бэльгіі і Польшчы разам узятых і не дамагаецца самалётаў-бомбавозаў.

Нямеччына аблічае, што 4 акружаючыя яе дзяржавы маюць разам 6500 аэропляна ў. 30 прац. гэтай лічбы выносіла-б 1930 самалётаў.

Мін. Гэрынг падчыркнуў далей, што нямецкая лётнічая дзейнасьць мае выключна характар абаронны, і што Нямеччына ў сучасны мамэнт прыгатоўваецца да будовы падземных гарадоў, якія-б вытрымалі бамбардаваньне лётнічае і газовае ў прыпадку вайны. Калі-б іншыя дзяржавы адмовіліся ад аэропляна ў - бомбавозаў, то Намеччыне ня прышлося-б патраціць вялікіх расходаў.

## Здушэньне паўстаньня ў Грэцыі

Паводле апошніх атрыманых вестак, паўстаньне ў Грэцыі здушана. Частка паўстанцаў уцякла ў іншыя дзяржавы, большасьць узята ў палон грэцкім войскам. Пачаўся суровы тэрор у адносінах да асоб, прыймаўшых учасьце ў паўстаньні або меўшых з ім якуюнебудзь сувязь. Пачаліся конфіскаты маёнткаў паўстанцаў. Сканфіскаваны маёнтак павадыра паўстаньня Вэнізэлёса, вартасьці поўмільярда драхм. Ува ўсім краі адбываюцца арышты і дымісіі. Паволі варочваюцца караблі, якія прылучыліся да паўстанцаў. Павадыры — паўстанцы лічаць прычынай упадку рэвалюцыі яе перадчасны выбух і частыя выпадкі здрады.

**Навучайце сваіх дзяцей чытаць і пісаць пабеларуску!**

Рэдактар: Мгр. пр М. МАРКЕВІЧ. Выдавец: С. КАРОЛЬ. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22, Тел. 21-14.